# ЖОСЬКА — ЗНАХАРКА

У купэ сядзела некалькі вясковых жанчын, ахутаных шарсцянымі хустамі, нейкая старэнькая бабулька, і маладая, гарадскога выгляду жанчына, апранутая ў падношанае паліто з вылінелым футравым каўнерам і ў прытоптаных на тоненькіх высокіх абцасіках туфельках. Побач яе сядзела бялявая ды зусім бледненькая, з патухлымі вочкамі, дзяўчынка год дванаццаці.

— Вы таксама да Жоські? — звярнулася адна з вясковых цётаў да жанчыны гарадскога выгляду.

— Але, да яе, — адказала жанчына. — Бачыце, нейкае ліха прычапілася да мае Леначкі, ды мучыць бедненькую. То ў галоўцы, быццам той чмель гудзе, то за жывоцік як абцугамі хапае. Ніяк не хоча ад яе адчапіцца. А яна, як бачыце ўжо ледзь жыве, зусім благенькая зрабілася. За што на яе нявінную душаньку Бог напусціў такую бяду — я ўжо і сама не ведаю — бядавала жанчына.

Цёты са спачуваннем уздыхалі ды ківалі галовамі.

— Я ўжо і ў доктара некалькі разоў была, — цягнула далей жанчына. А як-жа, прыпісаў нейкае лякарства, раіў больш па двары бегаць. Думаеце памагло? Ані капелютачкі, як мучыла яе злое так і далей мучыць.

— Плюнь ты даражэнькая на гэтых дактароў — заўважыла бабулька, часта моргаючы пачырванелымі, запухлымі, схварэла-загноенымі вочкамі. Ды ці-ж яны ў сілах супрацьпаставіцца злому, калі яно прычэпіцца да чалавека? Вось і ў мяне ўжо некалькі год таму нейкая хвароба да вачэй прычапілася ды адступіць не хоча. Спачатку думала я, што пабаляць крыху ды перастануць. Ці мала што баліць чалавеку ў жыцці, хто-ж на гэта ўвагу звяртае. А тут яны мне штораз горш баляць. Раілі мне цыбулю нанач прыкладаць да вачэй. Прабавала, нічога не памагае, наадварот, штораз горш баляць. Ну думаю, не іначай як нейкае злое прычапілася да іх. Тады, вырашыла я, няма іншай рады, трэба падацца да Жоські.

Цяпер не ведаю, калі ўжо Жоська не дапаможа, тады мабыць сляпой давядзецца ў сырую зямельку лягаць.

— Дапаможа, чаму-ж не дапаможа, упэўнена заўважыла адна з цётаў. — Кажуць, што трэба толькі моцна верыць у яе дапамогу, дык адразу, нібы рукой адыме. А калі не, дык гэта найлепшы знак кары Божай — завыракавала яна.

— Каб не дапамагала, дык і народ да яе не ехаў-бы — пераканаўча заявіла другая з жанчын. А то кажуць з усяе Польшчы людзі едуць. Са Шчэціна, Быдгашчы, Вроцлава, а нават з Варшавы. Там-жа не мала слаўных дактароў, аднак мабыць не здолеюць са злом змагацца, калі людзі аж сюды едуць.

Вялікую ласку Гасподзь Бог спаслаў на Жось...

Цягнік неміласэрна скрыгочучы тармазамі раптоўна прыстанавіўся і цёта не скончыўшы прарочых слоў, кулём паляцела з лаўкі. Яна ўзбянтэжана ўстала і нешта шэпчучы перажагнаўшыся выйшла разам з другімі з вагона.

Арлянка — маленькі прыпынак на трасе Бельск - Гайнаўка. Тут штодзённа цягнік выплёўвае некалькі дзесяткаў хворых людзей, якія з надзеяй цудоўнага аздараўлення спяшаюць у Орлю. Тут і жыве славутая знахарка—Жоська.

Каб нешта даведацца аб цудоўных Жосьчыных метадах лячэння ч зайшоў у Прэзідыум ГРН.

Аказваецца, што пацыентаў у Жоські ніколі не бракуе.

— Няма такога дня, — кажа сакратар Прэзідыума, грам. Федаровіч, — каб праз яе прыёмную комнату, не прайшло некалькі дзесяткаў людзей. Штодзённа ідуць і едуць з усіх канцоў Польшчы. У жыхароў Орлі не мае яна вялікай папулярнасці. Большасць смяецца з яе дурманных метадаў. Аднак неаднойчы, калі ў некага захварэе дзіцё, дык нясе да Жоські.

— Ці-ж у Орлі няма медпункта?

— Ёсць, і вельмі добра забяспечаны, аднак фельчар Карп Купцэль, якому ўжо 70 год, не здолее ўсім дапамагчы. Тады што-ж, няма выхаду, трэба йсці да Жоські. Вядома, чалавек у бядзе апошняе дошкі ратунку шукае.

Мы ўжо некалькі год дамагаемся кваліфікаванага доктара — гаварыў далей Федаровіч, аднак усё дарма.

Вось і цяпер трымаем для яго спецыяльнае памяшканне, аднак Аддзел аховы здароўя нямож нам прыдзяліць доктара. А Жоська не маючы адпаведнага канкурэнта, далей ашуквае бязглуздых людзей і збівае не малы капіталік на людской дурнаце. Найлепш будзе, калі вы самі туды зойдзеце, ды пабачыце. Толькі не бярыце з сабой партфеля.

— Чаму-ж гэта — здзівіўся я.

— Бычыце, справа ў тым, што ўжо некалькі разоў пісалі аб нашай знахарцы ў друку, з прычыны чаго мела яна непрыемнасці. Таму цяпер вельмі асцярожная і падазроных людзей не хоча прымаць — выясніў ён.

Старэнькая, невялічкая хатка, з саламянай стрэхай, ды маленькімі, нізенькімі аконцамі, пры вуліцы Пасвятнай — гэта памяшканне славутай знахаркі.

Ля хаты стаіць некалькі фурманак вымашчаных сенам, куча веласіпедаў пад плотам, матацыкл, сведчаць аб тым, што і сёння ў Жоські пацыентаў не бракуе.

Самую Жоську сустрэў я ў маленькіх сенцах. Давала нейкія ўказанні аднаму з пацыентаў.

— ...пасля трох дзён спаліш гэтую анучу і попел у 12 гадзін ночы высыплеш на разыходных дарогах у полі, — шапляніла яна старэчым голасам.

Сама Жоська невялічкая, хударлявая, старэнькая ды не па гадах рухлівая жанчына. Яе маленькія, бліскуча-чорненькія, пранізлівыя вочкі, падазрона змерылі мяне з галавы да ног.

— А ты да каго? — бесцырымонна спытала мяне.

— Да вас, бабулька, — з пакорай адказаў я прыглушаным голасам.

— Адкуль-жа ты?

— Аж з-за Беластока.

— Чым прыехаў? — падазрона пытала далей бабка.

— Вядома чым, цягніком.

— Цяпер-жа няма цягніка, чаму хлусіш? — разанула бабулька.

— Прыехаў я рана, — кажу, — аднак не ведаў дзе вы, бабулька, жывеце. Я-ж тут першы раз. Толькі цяпер мне людзі, каб ім Бог даў здароўе, паказалі вашу хатку.

Відавочна такое тлумачэнне пераканала падазроную знахарку аб маіх добрых намерах.

— Што баліць? — спытала яна ўжо зусім лагодна.

— Нага, у пахвіне, — адказаў я некалькі крокаў ?чыкілднуўшы, каб лепш пераканаць бабку.

— У доктара быў?

— Ды ціж у аднаго.

— Ну і што?

— Нічога, як балела, так і баліць.

— Ну добра, заходзь у кватэру і чакай сваёй чаргі — сказала бабуля.

Адчыніў я паказаныя дзверы, а там у цесным пакойчыку чалавек мо' трыццаць чакае на цудоўныя лекі. Жанчыны і мужчыны, моладзь, дзеці, старэнькія бабулькі, — бітком пакой набіты. У пакойчыку брудна, смурод. Аднак у пацыентаў настрой прыўзняты. Усе яны сядзяць і стаяць неяк сур'ёзна задуманыя. Зварочваюцца да сябе толькі ціхенькім шопатам.

Тут сустракаю я знаёмых жанчын з цягніка, усе сядзяць яны набожна пахіліўшы галовы, толькі маленькая Леначка, расшыранымі (відавочна ад страху) вочкамі, спалохана разглядаецца навокал.

Вось на ложку сядзіць нейкая зусім маладзенькая вясковая дзяўчынка-прыгажуня, сплёўшы рукі на падазрона выпуклым жывоціку. Мабыць яна недзе на палявы «злы вецер» наткнулася.

Ну што-ж, Жоська спецыяліст па ўсіх справах. Няма такой хваробы, каб яна не змагла вылячыць сваім цудоўным спосабам.

У куце пакоя стаіць невялічкі стол, над ім у покуце маленькая іконка, а на стале кучай ляжаць Жосьчыны «медыцынска - чарадзейскія прылады».

На першым плане найважнейшы інструмент, — гэта «вечны агонь» у шкляначцы пасля гарчыцы. Гэта ніколі не выгасаючы агонь (Жоська заўсёды да шкляначкі далівае масла, каб не пагас) мае вялікую моц, таму Жоська замаў-

(Працяг на стар. 6).

Чалавек не дакончыў гаварыць. Палац рухаўся пачаў. Грымоты загрымелі, і хлапец прачнуўся ад матчыных крыкаў:

— Ах, ты паганец! зноў цацкі! Ні да Бога, ні да людзей ты ў мяне!

Хлапцу перарвалі такі прыемны сон і аднялі ў яго пушачку. Слоў не стае. Найвялікшыя раны ў чалавечай душы загойваюцца, зарастаюць і забываюцца, але гэтай болі Сцяпанка, мабыць, да смерці сваёй не забудзе...

А раз у год бывалі ў Сцяпанкі светлыя хвіліны — на вялікдзень, калі яму дазвалялі яйкі фарбаваць. На гэту работу яму куплялі ў мястэчку фарбы на цэлы пятак. І ён па-майстэрску размалёўваў яйкі цэркаўкамі, званіцамі, анёлкамі і крыжамі, ажно людзі дзівіліся.

Толькі сёлета маці казала, што ніводнай капеечкі Пяцкуну на фарбы не дасць. Сэрца хлопчыка зашчаміў вялікі боль.

— Матанька! родная! злітуйся! дай хоць адну капеечку на фарбы...

Як скала, як жалеза, было матчына сэрца:

— Хвароба табе, а не фарбы, гаспадар ты мой! Во ідзе вясна, тата твой мо' і не жыве ўжо, а ў тваёй галаве толькі цацкі. Каб ты лепей бядаваў аб тым, хто сёлета ў нас поле араць будзе, хто шнур засее. Эх, ты, гаспадар!

Сцяпанка сумна пазіраў праз акно на мутныя хмаркі.

Прышоў вялікдзень, і з воласці прынеслі ліст, што Мікіта, бацька Сцяпанкі, ужо забіты.

Мікіціха плакала-галасіла на ўсю вёску аб чалавеку сваім, праклінаючы долю ўдовіну.

Цешылі яе суседкі тым, што не яна адна такая нешчаслівая, што тысячы такіх ёсцека цяпер.

Людзі абяцалі памагчы ў гаспадарцы — гэта яе не цешыла.

— Каб яшчэ сын людскі быў, падрос-бы і гаспадарыў, замест нябожчыка, а то з кожным годам растуць разам з ім і цацкі ў яго галаве.

Вельмі жаласна было Сцяпанку тое, што тата згінуў на вайне, аднак дзіця не ўцяміла добра гэтага гора і яму балела ў душы горш ад таго, што фарбаў няма на вялікдзень, каб яйкі афарбаваць...

Настаў вялікдзень. Пайшоў Сцяпанка з іншымі хлапчукамі ў валачобнікі на ўсю ноч. На яго долю выпала некалькі яек.

Хлапцу ўдалося выцягнуць з кубла бацькаву фатаграфію, якую Мікіта прыслаў з войска. Ён пабег з ёю ціханька ў ток.

Праз некалькі гадзін вярнуўся ў хату з намалёванымі яйкамі. Як толькі маці ўгледзіла яйкі, дык успляснула рукамі ад дзіва: на ўсіх яйках быў намалёваны нябожчык Мікіта і выглядаў ён усёроўна, як жывы. Быў ён намалёваны чырвонай фарбай.

— Дзе ты, гаспадар ты мой, чырвоную фарбу дастаў? — грымнула Мікіціха на сына, які ўвесь час хаваў рукі за плечы. — Пакажы, пакажы, гаспадар ты мой, што ты ў руках сваіх там трымаеш? — Пры гэтым Мікіціха схваціла яго за рукі і ўбачыла, што пальцы ў Сцяпанкі былі анучкамі завернуты. Яна хутка сарвала анучкі і чуць не абамлела ад неспадзеўкі — пальцы былі запэцканы крывёй...

— Што ты гэта зрабіў, гіцлю?! Што ты зрабіў! — крычала яна не сваім голасам.

— Мне фарбы патрэбны былі, — апраўдваўся Сцяпанка. — А пальцы—мае. Я над імі гаспадар!

— Назолу прыслаў Бог на маю галаваньку бедную! — заламала рукі Мікіціха.

Разнеслася чутка па ўсёй вёсцы, што вельмі дзіўна размаляваў Сцяпанка Пяцкун велікодныя яйкі. Людзі прыходзілі глядзець, пазнавалі на яйках нябожчыка Мікіту і дзівіліся.

Пайшла казка па ўсёй ваколіцы аб той фарбе, якой Сцяпанка яйкі размаляваў, байка вырасла ў цуд.

Чутка аб дзіўных велікодных яйках дайшла і да братоў-студэнтаў з блізкай вёскі.

Студэнты зацікавіліся і таксама прышлі паглядзець.

Доўга разглядалі яны сцены, размалёваныя вугаллямі, і шапталіся паміж сабой. Малюнкі на сценах ім яшчэ больш падабаліся, чымся малюнкі на яйках.

Пры гэтым Мікіціха з жалем расказала ім, як Сцяпанка яе замучыў сваімі малюнкамі і які ён нікчэмны хлапец.

Сцяпанка Пяцкун стаяў, як вінаваты, з апушчанай галоўкай.

Студэнты забралі хлопчыка з сабой і падарылі яму прыгожую скрыначку з рознымі фарбамі. Яны абяцалі яго вучыць і ў горад забраць, кажучы пры гэтым, што з яго выйдзе вялікі чалавек.

Бясконца радасны вярнуўся Сцяпанка дахаты. Увесь час думаў, якая можа быць карысць ад «вялікага чалавека». І ўспомніў ён, што ў вёсцы ў іх быў калісьці вельмі вялікі чалавек, вышэй ростам ад усіх у вёсцы, рыбалоў Міхась. Але той быў яшчэ большы п'яніца і задзёра, і ніхто яго не любіў.

Не спадабалася Сцяпанку быць «вялікім чалавекам» — доля Міхася-рыбалова яго не вабіла.

— Лепей буду маленькім, — думаў ён, — але каб паехаць у горад вучыцца.

Вярнуўся хлопчык дахаты, і маці ў яго спыталася, што студэнты яму гаварылі.

Сцяпанка спачатку сароміўся, а потым сказаў:

— Я буду некалі вялікім чалавекам!

— Эх, эх! — засмяялася Мікіціха, — навіну казалі разумнікі канапляныя! А я табе кажу, што калі будзеш займацца цацкамі, дык не дарасцеш да вялікага чалавека і не будзеш гаспадаром, бо з голаду памрэш! А пакуль што ідзі есці, мой «вялікі чалавек», бо ўжо другі дзень, як не бачыла — ці еў ты што-колечы...

А ці будзе некалі Сцяпанка вялікім чалавекам, ці заззяе над ім зорка светлая — не ведаем. Гэта залежыць ад таго, як далейшы лёс яго жыцця пакіруецца.

*Вільня, 1913 г.*

З. БЯДУЛЯ




Заходня - нямецкі штотыднёвік «Д'і Цэйт» у нумары з 4 красавіка змясціў тэкст мемарыялу правадыра СС, Гімлера, які датычыць спецыяльных адносін да народаў Усходняй Еўропы. (з друку)



МАРЫ ГІМЛЕРА.

## Заработак

Ішоў селянін наймацца да пана на работу. Па дарозе спаткаў ён цыгана.

— Куды ідзеш бацю? — запытаў цыган.

— Іду наймацца на работу, — адказаў селянін, — касіць ці якую іншую.

— Я таксама шукаю работу, — сказаў цыган. — Хіба пойдзем разам.

Прыйшлі яны ў маёнтак. Упраўляючы сказаў ім, што ёсць работа — касіць неплаў. Пайшлі яны працаваць. Селянін махае ды махае касою, кладуцца роўнымі шнуркамі пакосы. А цыган махнуў касою разы са тры не спадабалася яму. Тады прылёг ён пад лазовым кустом, смачна заснуў.

Пад вечар прыйшоў упраўляючы. Паглядзеў на работу селяніна, пахваліў яго, заплаціў што належна. Пасля пайшоў паглядзець на работу цыгана. Прыйшоў, глядзіць — трава некранута, валяецца каса на зямлі, а пад кустом спіць цыган, ды храпе нібы анучы дзярэ. Раззлаваўся ўпраўляючы, схапіў мянташку ад касы ды давай лупцаваць ёю цыгана.

Праз пару дзён селянін ідучы на працу зноў спаткаўся з цыганом.

— Ну які заработак, бацю? — запытаў цыган селяніна.

— Дык някепскі, — адказаў селянін. — Атрымаў паўтара рубля. А колькі табе заплачана?

— А мне дробязі ўсыпаў крыху, — сказаў цыган. — Але папраўдзе кажучы я яе і не лічыў.

А. Тр

## Малое непаразуменне

Прывялі ў суд злодзея, які ўкраў у мужыка кажух. Да лепшага даказання злажылі ў суд і той кажух.

Праз якісь час з'яўляецца ў суд мужык, каб атрымаць украдзены ў яго кажух, а суддзя пытае:

— «Чы то ваш кожух?»

— А ўжо-ж не чый, а мой.

— «Злужце доводы!»

— Да вады? Ды на што, пане суддзя, ды што мне потым з такога кажуха, як дам яго да вады...

* * *

Адзін злодзей папаўся за кражу каня. Наняў ён адваката і прасіў бараніць. Адвакат як узяўся гаварыць на судзе, як пачаў выказваць нявіннасць падсуднага, дык не толькі суддзі паверылі і звольнілі злодзея, але нават сам злодзей пасля суду падходзіць да адваката і кажа:

— Скажыце, паночку, як яно ёсць сапраўды, ці я ўкраў таго каня, ці не, бо паслухаўшы вашай прамовы я цяпер і сам не ведаю... ці мой конь, ці крадзены...

## Таксама

— Як ваша хвароба?

— А, бадай яе ліха! — вельмі ўпартая.

— А як ваша жонка?

— Таксама, пане доктар.

## Практычная

Кавалер (стыдаючыся): — Ах, дазвольце мне з'явіцца Вам у сне...

— Калі ласка, вось вам мой адрас.








Без надпісу

## Анёл

Была яна яснай бландзінкай. Валасы колеру спелага жыта, звіваліся ў дробненькія стружкі. Твар ружовы як у херувіма, а паходка лёгенькая, як у сіямскай кошкі.

Спаткаўся я з ёю прыпадкова ў кінотэатры, дзе добры прывід пасадзіў яе побач мяне. Калі выходзілі з глядзельнай залы, то я ўжо ведаў, што яна прыехала ў наш горад, і не гэта часта бывае, не атрымала памяшкання ў гасцініцы.

Ледзь нагаварыў яе да таго, каб згадзілася пераначаваць у мяне. Прыйшоўшы дахаты я падрыхтаваў скромную вячэру. Ела яна мала, вядома, на падоб'е анёлка, але была такая чароўная, што мой пакойчык паказаўся мне салонам.

Уступіўшы для яе ложак я паслаў сабе на кушэтцы ў кухні. Дзверы ў пакой былі адчынены. Я ўжо ляжаў, калі яна згасіла святло і па шораху сукенкі я дадумаўся, што анёл скідае свае крылы. Потым павольна заскрыпелі пружыны майго халасяцкага ложака, які дагэтуль выдаваў зыкі падобныя да Рок-'н-роль.

Не буду лгаць, заснуць я не мог. Бледны месяц-баламут пасылае ў акно фосфарныя праменні, якія малочнай дарогай цягнуцца ад кушэткі да ложака.

Быццам лунатык я ціха ўстаў і з найлепшымі намерамі, як балерына на пальцах падышоў да ложака.

— Дарагая мая, не магу заснуць са шчасця, ты ўвайшла ў мой дом, як зорка, твая прысутнасць напоўніла араматам маю келью. Дазволь цябе пацалаваць, лёгка як ікону, далікатна як сястру, аддана як матку — прашаптаў я, стараючыся перадаць страсць Отэла.

— Дурненькі, ідзі спаць, мне тут утульна і цяпло, на цалуй і будзь добрым — пачуў я ў адказ і адчуў на сваіх губах яе пальчык.

Пацалаваўшы гэты духмяны пальчык я на цыпачках, як белы лебедзь, вярнуўся к сваёй кушэтцы.

Доўга варочаўся. Потым змучаны, быццам у невядомае праваліўся...

Калі збудзіўся — убачыў, што ўжо пачало світаць. На ложаку віднела фігура, коўдра спакусліва падымалася ў месцах устаноўленых законам.

— Ангелчык мой, як ты ціхамірна вымавіла «будзь добрым», сколькі ў гэтым было давер'я да мяне — ціхенька прашаптаў.

Асцярожненька, як толькі мог, я ўстаў з кушэткі шапочучы. «На світанні ты не будзі, на світанні яна соладка спіць...» і пачаў наблíжацца да ложака. Быў ужо блізка, дакрануўся да коўдры і, людзі добрыя, падтрымайце мяне, з коўдры і падушкі была зробленая нейкая кучма. Анёл знік.

Зразу я не ўчым не арыентаваўся, але потым зразумеў, а ўжо зусім добра сцяміў, калі пераканаўся, што няма майго гадзінніка і партманета.

Дзядзька Лявона

## «Дзядзя Ваня» ў пастаноўцы Рускага драматычнага тэатра ў Польшчы

З вялікім зацікаўленнем чакала грамалства Беластока гастроляў Драматычнага тэатра Рускага культурна - асветнага таварыства ў Польшчы.

Зацікаўленне вынікала з двух прычын. З аднаго боку кожны з гледачоў хацеў паглядзець «Дзядзю Ваню». Беласток пастаноўкі «Дзядзі Вані» ніколі не бачыў. З другога боку шмат было гутарак; як паставіць аматарская трупа п'есу Чэхава, на якой ужо шмат прафесіянальных тэатраў паламала зубы?

Трэба сцвердзіць, што ўсе тыя хто глядзеў «Дзядзё Ваню» ў выкананні ўспамянутага тэатра задавальняюча ацанілі пастаноўку. Яна зрабіла станоўчае ўражанне. Гэта вялікая заслуга рэжысёра і ўсяго калектыву. Гледзячы на пастаноўку і ўяўляючы сабе, што іграюць аматары, так і насоўвалася думка: шмат працы ўкладзена ў яе падрыхтоўку.

Кожны персанаж у п'есе Чэхава, гэта скамплікаваны характар, не падобны адзін да другога (хаця-б можна на першы погляд дашукоўвацца супольных рыс напрыклад у Дзядзі Вані і Соні). Апрацоўка кожнай ролі вымагае сумленнай і доўгай працы, тым больш у нашых умовах, дзе няма ўзораў МХАТ. Цяжкасці павялічвае факт, што дзеянне адбываецца ў мінулым стагоддзі, а не ў нашыя дні. І таму варта падкрэсліць, што адчувалася на кожным кроку тую ўпадніцкую, гнілую атмасферу, якая панавала ў тым часе ў інтэлігенцкім і дваранскім асяроддзях.

П'еса была сапраўды руская. Падкрэсліваю гэта таму, што бачыў я пастаноўку «Дзядзі Вані» у Камерным тэатры ў Варшаве. Без параўнання лепшая была ігра артыстаў у польскім тэатры, але седзячы ў зале не адчувалася яе рускага характару ў такой ступені, як у Рускім драматычным тэатры. Напэўна вялікую ролю ў гэтым усім адыграла мова — тут не можна мець ніякіх сумненняў. Гэта зусім зразумела і ясна.

Ігра артыстаў наогул добрая. Лепш выконваліся мужчынскія ролі. Асабліва падкрэсліць трэба ігру І. Новіка ў ролі Дзядзі Вані і Е. Кандрацюка ў ролі лекара Астрава.

Новік у першых двух з'явах як-бы раскручваўся. За тое ў III і IV з'явах даў паказ ігры на добрым узроўні, асабліва ў фінальнай сцэне III-ай з'явы. Кандрацюк быў «раўнейшы» на працягу ўсяго спектакля.

Тое-ж самае можна сказаць аб В. Жданаве ў ролі прафесара Серабякава. Успамянутыя артысты - аматары ўпэўнена адчувалі сябе на дошках сцэны. Відаць гэта ім не ўпершыню. Не можна гэтага сказаць аб жаночых ролях.

Л. Венцова ў ролі Соні, як і О. Снежына ў ролі Елены Андрэеўны былі крыху штывныя, адчувалася недахопы ў дыкцыі. Гэты манкаменты думаю з часам выправяцца.

Дэкарацыі слабаватыя, варта гэты момант мець на ўвазе пры падрыхтоўцы наступных пастановак.

Як цэласць трэба дадатна ацаніць пастаноўку і пажадаць далейшых творчых поспехаў у працы тэатра.

МІКОЛА МАТЭЙЧУК.

## Народныя пагаворкі

Чые бачым пад лесам, а свайго ні бачым пад носам.

Не чын чалавека павышае, але чалавек чын.

Чужое дабро вылезе бокам.

І сам ні гам і другому ні дам.

### Развязка адгаданкі з 12 нумара «Нівы»

Развязка: «Якуб Колас»

Кніжныя ўзнагароды атрымалі:

1) Янка Лешчык — Беласток,
2) Рэгіна Кажарская — Мінск, БССР,
3) Надзя Раманюк — Бельск,
4) Нікодым Семёнткоўскі — Саколец,
5) Янка Дарашкевіч — Кшыкалы,
6) В. Будзько — Варшава,
7) Сяргей Бурак — Кошкі,
8) Анатоль Тарасевіч — Гарадок,
9) Рыгор Кот — Беласток,
10) Міхась Данілецкі — Бельск.

Узнагароды высылаем поштай. Р.

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

„NIWA" Organ Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Białymstoku. Adres redakcji: Białystok, ul. Manifestu Lipcowego 25, tel. 25-89. Warunki prenumeraty: miesięczna — 2.40 zł, kwartalna — 7.20 zł, półroczna 14.40, roczna 28.80. Prenumeratę przyjmują wszystkie urzędy pocztowe i listonosze. Wydawnictwo: RSW „Prasa", Druk Białostockie Zakłady Graficzne, T-10